


Гарцэрская ганаровая варта пры помніку паўстанцам з 1863 года ў Арэшкаве. Аб гарцэрах з Арэшкава чытай на стар. 6-7.

Фота Я. Чэрнякевіч.

№ 43 (1159) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 28.X.1979 г.

**Віктар Шымук**

## КОЛЕРЫ ВОСЕНІ

*Не можа Света*
*Надзівіцца*
*На восень —*
*Дзіва-чараўніцу.*
*Пафарбавала*
*восень*
*Клёны*
*У колер жоўты*
*І чырвоны.*
*На спелых гронках*
*Арабіны*
*Бялюткіх нітак*
*Павуціна.*
*А ля сцяжынкі,*
*Паглядзі ты —*
*Зялёнай руні*
*Аксаміты.*
*Не можа Света*
*Надзівіцца*
*На восень —*
*Дзіва-чараўніцу.*

## ВЕРАСЫ

*Колькі ў вас*
*Цяпер красы —*
*На ўзлессях*
*Верасы.*
*Жоўтым лісцем*
*Выслан дол.*
*Вы ж — ружовыя*
*Наўкол.*
*На палянцы,*
*Як зірнуць —*
*Верасы цвітуць,*
*Цвітуць.*

**Артур Вольскі**

## ГРЫБЫ

*З моху*
*Выгнуўся гарбок.*
*А пад ім*
*Сядзіць грыбок.*
*Гэй, грыбок*
*Баравы!*
*Не хавай*
*Галавы.*
*Паблукаю*
*Па бару —*
*Ўсе грыбочкі*
*Пабяру!*
*А сініца:*
*— Цінь-цінь,*
*І для іншых*
*Кінь-кінь!*
*Будзе ўсю зіму*
*Ваверка*
*Без грыбочкаў*
*Плакаць горка.*
*Слёзы-градам*
*З вачанят:*
*— Чым карміць*
*Вавёрчанят?!*
*Я схаваў адразу*
*Ножык.*
*У мяне —*
*Пайнюткі кошык.*
*Лепш парадую*
*Вавёрку*
*І грыбоў*
*Пакіну горку*
*На пянёчку,*
*Ля сасны,*
*Каб хапіла*
*Да вясны...*
*Эх, і смачныя*
*Грыбочкі —*
*Проста з лесу,*
*А не з бочкі!*



# Э Й

Э Э Э Э Э Э Э э э э э э э э э э э э

З з Х х Ж ж Эма Эла

эх рэшата арэшнік рэха

Наша мэта — камунізм.

й й й й й й й й й й й й й й й й й й

мы мый мой твой той рой

май вырай сойка зайка

Паважай старэйшых!

рэйка шый вышый васількі

Купіла мама Олі світак.

Пішы старанна літары.

Д. Слаўковіч

# Знаходка

Быў адвячорак. На бярвеннях у завулку сядзелі хлапчукі. Выхваляўся Слаўка прыяцелям:

— Во як мне пашанцавала! Манету, дваццаць злотых знайшоў! Іду, пазіраю, а яна, як жывая, блішчыць на пяску. Мая цяпер!

— Пакажы, Слаўка! — просяць сябры.

— Паглядзіце, — адказвае Слаўка, — мне не шкада.

А з кулака манету не выпускае.

— Дай у рукі, што з ёю зробіцца, — просіць Сцёпа.

— У чужыя не дам. Бо мая.

— Ніякая яна не твая! — раззлаваўся Бронік. — Не зарабляў ты яе! І калі назад не аддаў, то ўсё адно, што ўкраў.

— А каму аддаць? — крыва ўсміхнуўся Слаўка. З'едліва ўсміхнуўся. — Можа ты ведаеш, хто манету згубіў?

Бронік не ведаў. Не ведалі і астатнія. І таму, мабыць, хутка разышліся па хатах. А можа і не таму. Толькі на душы ў Броніка неяк непрыемна было.

Дома тата заўважыў:

— Невясёлы ты сёння, здарылася што?

— Нічога, — пацепаў плечукамі Бронік. — Так.

— Не захварэў? — захвалявалася мама і лоб сынаў памацала. — Нідзе не баліць?

— Здаровы я, — супакоіў маму Бронік.

— А калі здаровы, то і добра, — кіўнуў кучараваю галавою тата. — Заўтра выхадны, і ўсёй сям'ёй на грыбы пойдзем.

— Ура! — узрадаваўся Бронік. — Няхай растуць грыбы аж да неба!

Павячэралі, падрыхтавалі назаўтра, што трэба. І спаць.

На золаку мама разбудзіла Броніка:

— Уставай, грыбнічок, баравічкі чакаюць!

І пайшлі яны ўтрох у лес.

На ўзлессі, дзе пасадкі маладых сасонак і трава вялікая, пачалі збіраць крамяныя ліпкія казлячкі. Далей, у бары, мама два баравічкі адшукала, а Бронік — сямейку жоўтых дужанькіх махавічкоў.

Бронік пра Слаўкаву манету ўспомніў. Спытаў:

— Тата, чаму, як грошы знойдзеш, нядобра і брыдка робіцца, а як грыбы, то весела і радасна?

— Таму, сынок, што грошы тыя — чужыя, табе ніхто іх не даваў. Грыбы ж лес нібы дорыць людзям. Тым, якія самі яго любяць, наведваюць. А падарункі браць заўжды прыемна.

Падаліся ў глыб лесу. У густым ельніку, там, дзе смалістыя маладыя елачкі і жоўтарыжыя лісічкі пад імі, Бронік зачапіўся за нешта і ўпаў. Грыбы з кошыка рассыпаліся.

Устаў, пазбіраў грыбы, глядзіць, за што зачапіўся. А гэта костка нейкая. Бурая.

— Тата! Мама! — загукаў Бронік. — Паглядзіце, што тут!

Падыйшоў тата, падняў цяжкую костку. І адразу захваляваўся:

— Бронік, ды табе ж пашанцавала, як нікому! Ты ласіны рог знайшоў!

— Ад сапраўдашняга лася?

— Так, сынок! Самы сапраўдны ласіны рог. І вельмі прыгожы.

Бронік не ведаў: радавацца ці трывожыцца. Спытаў:

— А чый ён цяпер: наш ці ладся, як грошы?

— Наш, ну, вядома, наш! Ласю цяжка стала старыя рогі насіць і ён іх скінуў. Маладыя адрошчваць будзе. А мы гэтыя дома на сцяне спадобім.

Калі з лесу дамоў вярнуліся, і мама з Бронікам грыбы перабіраць пачалі, тата ўзяў тоўстую дубовую дошку, абгабляваў, абрэзаў, ды так, што на ласіную галаву падобна стала. І прыстроіў рог: на тоўстым шурпатым камлі пляскач з васьмю гладкімі белаватымі на канцах атожылкамі. Сем вострых, як ражны, а восьмы затуплены.

Страпянуў гордай галавой, прывітаўся:

— Добры дзень, Бронік!

— Добры дзень, Лось!

— Казалі, ты мой рог знайшоў. Праўда то?

— Праўда, Лось. Толькі ты не крыўдуй. Я не хачу браць чужога. Аддам табе рог назад!

Уздыхнуў лось. Вялізнай цёплай пысай у руку Бронікаву ткнуўся. Мяккай вільготнай губой па голым плечуку правёў. Так адказаў:

— Рог, Бронік, я табе дарую. Назусім. За тое, што ты лес любіш, у маё царства ходзіш. А калі-небудзь і я да вас у госці прыду. Са сваім сынам прыду.



— Вось і вешалка для адзення гатовая! — узрадавалася мама.

Тата галавою пакруціў:

— Вешалкі ў нас ёсць ажно дзве. Рог — для прыгажосці будзе. Мы яго на відным месцы пачэпім, над канапаю.

Бронік адпачыць прылёг, пад рогам. Пазіраў на сваю знаходку, думаў пра лес, пра вялізнага ласся, які без рога застаўся. Не заўважыў, як задрамаў. І здалося яму, што прыйшоў да яго лясны волат, магутны прыгажун лось.

Сказаў і — прапаў. А замест ласся над Бронікам мама схілілася:

— Уставай, грыбнічок. Грыбы згатаваныя на стале стаяць. Усе цябе чакаюць.

**Адказ на заданне са стар. 8.**

Кружок А зробіць два поўныя абароты, што лёгка праверыць пры дапамозе двух аднолькавых манет.

*Яніна Чэрнякевіч*

# Справы арэшкаўскіх гарцэраў

На „Зорчына" пытанне „Што чуваць у школе ў Арэшкаве?", адказы пасыпаліся як з рукава. Усе мелі што расказваць. Ды і не дзіва. Амаль кожны вучань тут з'яўляецца гарцэрам або зухам. А ў гэтай арганізацыі, вядома, заўсёды ёсць чым цікавым заняцца.

Вось цяпер дзеці прыступілі да ўдзелу ў турніры грамадскіх ведаў. Усе з прыемнасцю ўспамінаюць такі ж турнір з мінулага навучальнага года. Школа тады заняла другое месца ў гміне. Але не гэта важнае. Яшчэ сёння дзеці расказваюць, як вывучалі яны жыццё дзяцей у розных краінах (Турнір быў прысвечаны міжнароднаму Году дзіцяці), рабілі газеткі, альбомы, а потым кожны з іх зрабіў нейкую дробязь — прыгожую маскотку з каляровых ніт
ак, сурвэткі, модныя партманеткі на шыю, дэкарацыйныя збаночкі і шмат іншых рэчаў. З усяго гэтага зрабілі кірмаш, дзе самі ж прадавалі і самі ж куплялі тое, што рабілі сябры. Забава была цудоўная, кожны панёс дадому нешта на памяць з уданага збору, а выгаспадараваныя такім чынам грошы былі перададзены на Цэнтр здароўя дзіцяці.

Потым былі ў школе сустрэчы гарцэраў з цікавымі людзьмі. Напрыклад, Францішак Маліноўскі, які жыве цяпер у Гайнаўцы, прыехаў на сустрэчу, каб расказаць гарцэрам аб цяжкіх гадах, калі трэба было змагацца з бандамі. Ф. Маліноўскі дзейнічаў якраз у лясах вакол Арэшкава.

Штогод гарцэры з Арэшкава арганізуюць свята печанай бульбы. Спачатку ўсе да гэтага свята рыхтуюцца: збіраюць веды аб бульбе, вывучаюць яе гісторыю паяўлення ў нас, даведваюцца, што робіць з бульбы наша прамысловасць і якія стравы смачныя рыхтуюць з бульбы нашы мамы. А потым усе разам распальваюць вялікае вогнішча з пячэннем бульбы. У госці да дзяцей тады з лесу прыходзіць дзед Бульбяны Нос. Ён прыносіць з сабою кошык з песнямі, складзенымі спецыяльна на гэтую ўрачыстасць. Сярод удзельнікаў выбіраецца кароль Тартуфэль і каралева Пыруся. Картафляны баль не абыдзецца без запрошаных гасцей. У мінулым годзе госцьмі арэшкаўскіх гарцэраў былі дзеці з Дубін і Барысаўкі. Усім такая забава вельмі спадабалася.

Пад апекай арэшкаўскіх гарцэраў знаходзяцца тры помнікі. Адзін з іх — помнік паўстанцам з 1863 года — вы бачыце на першай старонцы „Зоркі". У кожнае дзяржаўнае свята або пры гарцэрскіх урачыстасцях тут стаяць гарцэрскія ганаровыя варты. Другі помнік знаходзіцца ў вёсцы Вітава, дзе пахаваны тры члены ППР, загінуўшыя ад рук бандытаў у 1945 годзе. Тут таксама стаяць у святы ганаровыя варты. А ў вёсцы Лазіцы гарцэры апякуюцца помнікам-магілай партызанкі-сувязной Валі Койла і савецкага партызана Міхаіла Хвеські, якія трапілі ў гэтым месцы на нямецкую засаду і загінулі. На ўсіх

помніках усё лета цвітуць кветкі.
— З прыемнасцю не магу не заначыць, што ў Арэшкаве ўсе дзеці вывучаюць беларускую мову. Цяпер у школе арганізуецца мастацкі беларускі гурток, у якім дзеці будуць развучваць новыя песні, танцы, рыхтаваць п'есы на розныя школьныя ўрачыстасці і вечары. Апрача таго, гурток будзе займацца збіраннем фальклору і прадметаў народнай культуры. Кіруюць усім гэтым у школе настаўніцы беларускай мовы Ірына Баранчук і Валянціна Дзмітрук. Магчыма, што першы канцэрт гуртка прыпадзе на навагоднюю ёлку.

Не застаюцца без увагі гарцэраў і старыя людзі вёскі. Аднойчы застэмповая Іра Нікалаюк прызналася сваім сяброўкам, што ходзіць да старой і хворай бабулі Веры, каб ёй хоць трошкі весялей было. Ды і памагчы ёй трэба: то купіць нешта ў краме, то дроў ці вады прынесці, нават хату прыбраць. Дзяўчаткі адразу ж выказалі ахвоту апекавацца бабуляй разам. І вось ужо год амаль Ірыніна група дзяўчат наведвае бабулю, расказвае ёй аб школьным жыцці, дапамагае ў хатняй невялічкай бабулінай гаспадарцы. Бабка Вера надта ж удзячна малым. Бо і ёсць з кім пагаварыць, пасядзець, ды што і казаць, дапамога вельмі ж ёй прыдатная. Бабка чакае дзяўчынак, стараецца падрыхтаваць для іх нейкія ласункі, хоць бы чай з пячэннем ці цукеркі. І дзяўчаткі не хочуць быць у даўгах у бабулі. Калі ў школе бывае нейкая ўрачыстасць, дзяўчаткі забіраюць і бабулю Веру з сабою. А ёй у школе вельмі падабаецца.

— Усе яны, дзяўчаткі, такія мілыя, харошыя, каб ім Бог здароўя даў, — кажа бабуля Вера, выціраючы з вачэй слёзы ўдзячнасці для малых. — А Ірачцы дык я і не ведаю, як аддзякаваць, што яна сама прыходзіць ды і іх да мяне прывяла. Весялей мне з імі.

**Фота аўтара**



*Бабка Вера з дзяўчаткамі групы Іры Нікалаюк.*

# Пазнаёмімся



Оля Сярогіна з г. Тулы хоча перапісвацца з вамі. Олі дванаццаць год. Вось яе адрас: СССР, 300041, г. Тула, Красноармейский проспект, д. 8а, кв. 19. Серёгиной Ольге.

* * *

Таня Карольчук, вёска Лука 59, пошта 17-222 Семяноўка, Беластоцкае ваяводства.

* * *

СССР, г. Тула, пос. Мясниково, 4 проезд, д. 66, кв. 87. Мусатовой Ольге. Дзяўчынка вучыцца ў шостым класе.

* * *

Аліна Койла, вучаніца пятага класа, 17-211 Дубіны, д. 87.

* * *

Аня Чэпель, вучаніца пятага класа, Стараберазова, пошта 17-206 Старакорнін, Беластоцкае ваяводства.

* * *

СССР, г. Москва, ул. Байкальская, дом 48, корпус 2, кв. 147. Скороходовой Ире. Дзяўчынка вучыцца ў чацвертым класе.

* * *

СССР, Горьковская обл., Вачский район, п/о Беляйково, ул. Глебово, Шабановой Ольге. Дзяўчынцы 14 год.

* * *

Эльжбета Місеюк, вучаніца шостага класа, 17-211 Дубіны 92, Беластоцкае ваяводства.

## АДГАДАНКА



*На малюнку бачыце казу, якая стаіць за плотам. Што трэба зрабіць, каб каза аказалася перад плотам?*




**ПАДУМАЙ**

*На малюнку бачыш два кружкі аднолькавага радыуса. Кружок А паварочваецца вакол кружка Б, які стаіць нерухома. Колькі абаротаў зробіць кружок А, калі ён зробіць поўны абарот вакол кружка Б.*

*Адказ знойдзеш у спрэдзіне нумара.*

**Адрас рэдакцыі: „Зорка" 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.**